БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА



# ЧЫРВОНАЯ ЧЗ ЗМЕНА

9 красавіка 1994 г.
Субота
№ 38 (13755)
Кошт у розніцу 100 рублёў
Выдаецца з 1921 года



Малюе Віктар ДУБОВІК




## АБДЫМКІ ПЯШЧОТЫ



Фота А. НІКАЛАЕВА.

## Кур'ер "ЧЗ"



Рэнтгенаўскія апараты, дыягнастычнае абсталяванне, медыцынскі інструментарый, абсталяванне для аперацыйных і шмат чаго іншага перадалі 9-й клінічнай бальніцы Мінска прадстаўнікі ўрада ЗША. Гэта частка вялікай гуманітарнай дапамогі, якая ацэньваецца амаль у 10 мільёнаў даляраў.

Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

### Да летняга сонцастаяння

*Беларусь становіцца на новы шлях. Калі перайначыць вядомае выслоўе, усе дарогі вядуць да прэзідэнцтва. І ў календары, гэтым штодзённым люстэрку рэчаіснасці, нібыта шчыгрынавая скура, растае, станчаецца запас часу, адведзенага пад выбарчую гонку. Для тых, хто мроіць аб высокай пасадзе, жоўтыя каляндарныя лісткі робяцца сапраўды залатымі.*

Як не зусім звычайную вызначыў прэс-канферэнцыю старшыня Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта Беларусі Аляксандр Абрамовіч. Асноўная яе мэта — запоўніць пэўны інфармацыйны вакуум. Паколькі правесці кампанію ў поўны тэрмін немагчыма, камісія вымушана была ўнесці карэкціроўку ў закон. Такім чынам, не паспела парламенцкая туш прасохнуць на гербавых паперах, як прыйшлося прымаць рашэнне аб скарочаных тэрмінах выбараў.

Трэба адзначыць некаторыя дэталі. Так, у тэрытарыяльных камісіях людзі будуць працаваць "на штатнай аснове", што дасць магчымасць прасачыць, у прыватнасці, за дакладнасцю падпісных лістоў. Збіраць подпісы могуць толькі члены ініцыятыўных груп на стандартных паперах. Дарэчы, падпісныя лісты ўстаноўленага ўзору выдадуць толькі для асоб, згодных на сваё вылучэнне. Аляксандр Абрамовіч заўважыў: "афіцыйны" статус агітацыйная работа набудзе пасля рэгістрацы асобы ў якасці кандыдата. Тады ж кожнаму зарэгістраванаму Цэнтральнай камісіяй прэтэндэнту будуць выдзелены фінансавыя сродкі (усім — роўна), прадастаўлены эфірны час.

Зноў-такі, усе дарогі вядуць да... чэрвеньскага выхаднога. Працягваючы рымскія аналогіі, успомнім славуты фільм Феліні "І карабель плыве". Наша грамадства цяпер нагадвае пасажыраў таго вечнага карабля. На тварах людзей — адбіткі тых жа бэзавых рэтра-таноў, пазачасовых фарбаў. Няма пакуль выратавальнай ідэі. Можа, ёю стане ідэя дзяржаўнага аб'яднання? Будзем спадзявацца. Чэрвеньскае сонца ходзіць высока, можа яно і пачне разганяць прыцемкі няяўнасці.

Якаў ЯСЭПКІН.

### Смецце з-за мяжы

*У выніку спецыяльнай праверкі супрацоўнікамі КДБ былі затрыманы пяць грузавых аўтамабіляў, якія перавозілі з Германіі ў Вілейку 97 тон "адкідаў пластмасы" без адпаведнага заключэння Дзяржэкалогіі. Груз уяўляў сабой спрасаваныя ў цюкі поліэтыленавыя плёнкі і ёмкасці з-пад прадукцыі бытавой хіміі.*

Пазней высветлілася, што філіял фірмы на ўскраіне Вілейкі ўжо атрымаў з-за мяжы 16 тон аналагічнай прадукцыі, якая, паводле задумкі арганізатараў акцыі, у далейшым павінна была стаць сыравінай для вырабу посуду. З гэтага посуду пілі б каву і прахаладжальныя напіткі пасажыры авіярэйсаў, паколькі адным з заснавальнікаў сумніцельнага мерапрыемства з'яўляўся аэрапорт "Мінск-2".

Рашэннем прыродаахоўчай пракуратуры затрыманы груз быў выдвараны за межы Беларусі.

Святлана КУЛІКОВА.

### Новыя імёны

*Трэці абласны конкурс дзіцячай творчасці "Новыя імёны" адбыўся ў Гродна. Удзел у ім прынялі прадстаўнікі большасці раёнаў вобласці, якія паказалі сябе як здольныя і таленавітыя музыканты, спевакі, мастакі.*

Лаўрэатамі конкурсу сталі акардэаністка Наталля Дзебыш, скрыпач Аркадзь Гудкін з Гродзенскага музвучылішча, піяністка Наталля Якуніна з Ліды, вакаліст Аляксей Літвінаў з гродзенскай музычнай школы № 1 і юная мастачка Таццяна Саўца, таксама жыхарка абласнога цэнтра.

Зараз рыхтуецца канцэрт лаўрэатаў, з якім пачынаючыя артысты ў якасці дабрачыннай акцыі выступяць у інтэрнатах і бальніцах.

Лілія АСТРАВЕЦКАЯ.

### Адрасы выдавецкія

*Яшчэ зусім нядаўна беларуская кніга мела выключна адзін выдавецкі адрас на радзіме — Мінск, а, скажам, кнігі з Беластока, Нью-Йорка, Мюнхена, Таронта былі для нас амаль недаступныя. Сёння мы не толькі адкрываем упершыню для сябе старыя адрасы, але і новыя з'яўляюцца на выдавецкай мапе самой Беларусі.*

Дзякуючы намаганням Гродзенскага абласнога інстытута ўдасканалення настаўнікаў выйшла ў свет вельмі надзённая і цікавая кніга "Асноўныя хрысціянскія плыні і фарміраванне нацыянальнай свядомасці беларусаў". Ейнымі аўтарамі з'яўляюцца кандыдат гістарычных навук А.Малеша з Беластока і гарадзенскія спецыялісты — дацэнт С.Сакалоўскі ды кандыдат філасофскіх навук К.Койла.

Гродзенскае выданне прывабіла да сябе міжнародную ўвагу, рэцэнзіі з'явіліся і ў Мінску, і ў польскім друку. Праўда, адной з прычын гэтага стаў і дыскусійны характар гэтай навуковай працы.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

### І на нафце будуць вешанкі расці

*Каб захаваць рабочыя месцы, на нафтаперапампоўваючай станцыі "Сянно" пачалі вырошчваць ... грыбы-вешанкі, адкрылі свінагадоўчы комплекс і кветкавыя цяпліцы.*

Жорсткія рыначныя законы ажыццявілі нават тое, што не пад сілу законам прыроды — і на нафце будуць вешанкі расці.

### Метамарфозы

*Гарадскія аўтобусы ў Віцебску па выходных і святочных днях пасля дваццаці адной гадзіны перастаюць хадзіць, але не знікаюць з маршрутаў. Яны ператвараюцца ў ... таксі.*

Папялушчына карэта, якая з дванаццатым ударам гадзінніка мела моду ператварацца ў гарбуз, магла б толькі пазайздросціць казачнай фантазіі Віцебскага гарвыканкама. Згодна з яго рашэннем, зараз ноччу можна дабрацца фактычна ў любы канец горада, але... за дзве тысячы рублёў. Цікава, што бензін, якога не хапала аўтобусам, заўсёды ёсць для таксі. Метамарфозы!

Уладзімір МІХНО.

**Курсы валют на 8 красавіка:**

| | Даляр ЗША | | Ням. марка | |
|---|---|---|---|---|
| | Скупка | Продаж | Скупка | Продаж |
| "Комплекс" | 10700 | 11050 | 6200 | 6460 |
| "Прыор" | 11000 | 10900 | 6230 | 6370 |
| "Пошук" | 10650 | 11300 | 6350 | 6600 |

# По шляху палітычнага рэалізму да грамадства справядлівасці і згоды

## Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслава ГРЫБА перад выбаршчыкамі Віцебска

Заўважана, што добрае — вораг лепшага. Але ў імкненні да яшчэ невядомага лепшага некаторыя палітыкі спрабуюць прымусіць людзей забыць, а часам і проста перакрэсліць тое рэальна пазітыўнае, што было ў нашым жыцці раней, — адсутнасць, напрыклад, беспрацоўя і голаду, галечы і жабрацтва як сацыяльных з'яў. Сёння мы з імі сустракаемся на кожным кроку, іх вал пагражальна нарастае, прымаючы пачварныя ў нашых умовах формы. Гэта і крызіс перавытворчасці, які мудрагеліста спалучаецца з масавай недавытворчасцю, крызіс збыту, цэнаўтварэння, грашовай сістэмы і іншыя невядомыя раней негатыўныя з'явы.

Шмат якія з гэтых негатываў выкліканы аб'ектыўнымі знешнімі фактарамі, разрывам, скажам, ранейшых гаспадарча-эканамічных сувязей. Аднак пэўная доля іх — гэта нашы ўласныя памылкі і пралікі. Напрыклад, у сферы функцыяніравання розных узроўняў дзяржаўнай улады і гаспадарчага кіравання, у нестыкоўках існуючай сістэмы права і надзённых эканамічных задач.

Думаю, што ўсё гэта, разам узятае, выступае ў якасці тормаза вельмі зацягнутага ў рэспубліцы працэсу рэфармавання, хоць прычынай гэтага тармажэння з'яўляюцца не толькі памылкі і пралікі і не толькі тыя фактары, што прыходзяць звонку. Аднак ёсць у гэтым, відаць, пэўны разлік, а менавіта: не дапусціць, каб грамадзяне Беларусі апынуліся ў шокавым стане поўных пагарэльцаў, не даць разбурыць да канца стары дом, не пабудаваўшы хоць бы сцены новага.

(Заканчэнне на 2-й стар.).

## ДЗЕВЯТАЕ НЕБА



"Еўраньюс"

### Тэлешоу супраць СНІДу

*7 розных тэлекампаній арганізавалі ў Францыі шоу, накіраванае супраць заражэння СНІДам.*

Мільёны тэлегледачоў былі інфармаваны аб небяспецы гэтага захворвання і метадах прафілактыкі. У шоу ўдзельнічалі многія палітыкі, журналісты, эстрадныя "зоркі". Па распаўсюджванню СНІДу Францыя знаходзіцца на першым месцы ў Еўропе. І гэта — з-за недахопу інфармацыі і недастаткова жорсткай палітыкі міністэрства аховы здароўя.

### Цягнікі са "спецагентамі"

*Міністэрства шляхоў зносін Швейцарыі распрацоўвае закон, згодна з якім усе чыгуначныя саставы і пасажырскія цягнікі будуць суправаджацца спецыяльнымі людзьмі з органаў бяспекі.*

Кожны такі "спецагент" атрымае табельную зброю. На гэтыя мэты міністэрства шляхоў зносін выдзяляе 60 мільёнаў швейцарскіх франкаў.

"Суперчэннэл"

### Парадокс з французскім шармам

*У час свайго візіту ў Кітай прэм'ер-міністр Францыі Эдуард Баладур заявіў, што Францыя мае намер актыўна сачыць за захаваннем правоў чалавека ў КНР.*

Аднак французскі прэм'ер падкрэсліў: Парыж не будзе ўмешвацца ва ўнутраныя справы Кітая. Відаць, таму многія эксперты заўважылі ў гэтых двух выказваннях Баладура пэўны парадокс.

"Уорлднэт"

### Доўгая дарога ў ЕС

*Польскі парламент падтрымаў рашэнне ўрада аб уступленні краіны ў Еўрапейскае супольніцтва.*

Афіцыйны запыт Польшча хоча даслаць туды да 1 ліпеня гэтага года. Польскі ўрад спадзяецца, што рэспубліка зможа стаць членам ЕС да канца стагоддзя. Польшча — другая дзяржава былога ўсходнееўрапейскага блоку, якая накіроўвае афіцыйны запыт аб уваходзе ў ЕС. Хаця, на думку многіх экспертаў, дарога туды для яе будзе працяглай і цяжкай.

### Дэфіцыт — і ў Афрыцы дэфіцыт

*За тры тыдні да пачатку выбараў у Паўднёвай Афрыцы белае насельніцтва ажыятажна раскупляе прадукты харчавання ў магазінах.*

Прычына такіх паводзін крыецца ў тым, што многія апасаюцца няпэўнасці, якая можа ўзнікнуць пасля першых свабодных выбараў у краіне. Таму паліцы магазінаў цяпер амаль пустыя. Вельмі добра "ідуць" свечкі, а продаж зброі павялічыўся аж у тры разы. Амаль усе білеты на авіярэйсы ў Еўропу таксама раскуплены.

"TV-5"

### Пагадненне будзе падпісана

*Спрэчныя эканамічныя пытанні паміж Ізраілем і Арганізацыяй вызвалення Палесціны ў хуткім часе павінны быць вырашаны.*

Аб гэтым заявіў міністр фінансаў Ізраіля ў Парыжы. У наступны панядзелак плануецца падпісанне вялікага пагаднення паміж Ізраілем і будучымі палесцінскімі аўтаномнымі абласцямі.

(Працяг на 3-й стар.).

ПАВЕДАМЛЕННІ, АТРЫМАНЫЯ ПА КАНАЛАХ СПАДАРОЖНІКАВАЙ СУВЯЗІ "ЧЫРВОНАЙ ЗМЕНЫ"

*Дзяжурныя па выпуску: перакладчыкі С.КІРЫЕНКА, Д.ЛІТВІН, рэдактар Я.ЯСЭПКІН.*



**Бізнес-клас**

*Вядучая рубрыкі — Вера ПАЛЯКОВА*
**Тэл. 68-28-52**

### Намеры нямецкіх банкіраў

Магчымасці адкрыцця ў Беларусі прадстаўніцтва або філіяла "Дрэзднер" банка абмеркаваны 5 красавіка ў Дзяржкамітэце па знешніх эканамічных сувязях рэспублікі.

У час перамоў з першым намеснікам старшыні Міхаілам Марынічам дырэктар Міжнароднага аддзела фінансавай установы з Германіі пан Вольфганг Г.Пупе падрабязна расказаў аб сваіх намерах, дзейнасці банка, яго новых відах паслуг.

На думку бакоў, банк мог бы аказваць істотную дапамогу нам у падборы інвестараў, асабліва для ажыццяўлення канверсійнай і энергетычнай праграм. Таму што, паводле слоў Міхаіла Марыніча, Беларусь — адзін з цэнтраў інтэлектуальнай канверсіі. І многія распрацоўкі маюць патрэбу ў фінансавай падтрымцы. Сваю лепту ён мог бы ўнесці і ў стварэнне свабоднай эканамічнай зоны ў Брэсцкай вобласці. Але наколькі сур'ёзныя намеры нямецкіх банкіраў — пакажа час.

**БЕЛІНФАРМ.**

### Ёсць такая гільдыя!

У інстытуце "Белжылпраекта" адбылася сустрэча прадпрымальнікаў, прадстаўнікоў прыватных і дзяржаўных арганізацый, на якой абмяркоўваліся задачы стварэння Гільдыі спецыялістаў па нерухомасці. Галоўнай мэтай гільдыі, напэўна, будзе каардынацыя работы бізнесменаў, якія займаюцца нерухомасцю (будаўнікоў, прадаўцоў, маклераў, брокераў, экспертаў па ацэнцы, кіруючых дома- і землеўладальнікаў, юрыстаў і г.д.), дапамога ім і дзяржаўным структурам у прававым, арганізацыйным і інфармацыйна-тэхнічным дачыненні.

Патрэбна адзначыць, што самастойных аперацый па куплі-продажу нерухомасці гільдыя не вядзе. Яе дзейнасць накіравана на паскарэнне прыватызацыі і раздзяржаўленне эканомікі, стварэнне новых форм аперацый з нерухомасцю, канцэнтрацыю сіл прадпрымальніцкіх і дзяржаўных структур для вырашэння асноўных праблем рынку нерухомасці і паступовае вызваленне камерцыйных структур ад выканання няпрофільных даследаванняў і распрацовак.

Членам гільдыі можа стаць кожная фізічная асоба ці працоўны калектыў, якія займаюцца арганізацыямі, звязанымі з нерухомасцю. А таксама ў гільдыі чакаюць замежных фізічных і юрыдычных асоб.

На сустрэчы быў абраны аргкамітэт у складзе 13 асоб на чале з віцэ-прэзідэнтам Заходняй біржы нерухомасці М.Трыфанавым.

**Святлана КУЛІКОВА.**

### "Салодкая парачка" ў законе

Адобраны праект расійскага закона аб рэкламе, хросным бацькам якога стаў антыманапольны камітэт.

Цяпер рэклама ў сродках масавай інфармацыі будзе "добрапрыстойнай, праўдзівай, добрасумленнай", публікавацца на рускай мове, а магчыма, і на мовах народаў Расіі. Уведзены і абмежаванні: у газетах рэклама павінна займаць не больш як 25 працэнтаў плошчы, на тэлебачанні — 15 працэнтаў эфірнага часу. Не дапускаецца перапыненне перадач рэкламай без згоды на тое аўтараў. Рэклама тытуню і алкаголю дапускаецца толькі ў начны час.

Напэўна, падобны закон не пашкодзіў бы і Беларусі.

### Беларусь вачамі эканамістаў і палітыкаў

З 16 па 18 красавіка ў Мінску будзе праходзіць міжнародны семінар. Яго арганізатарамі з'яўляюцца Інстытут Крыбла фонду Свабоднага кангрэса /ЗША/ і Беларускі народны фронт. Семінар будзе працаваць па дзвюх секцыях: эканамічнай, па тэме "Бізнес і прадпрымальніцтва", па палітычнай — "Выбары і прынцыпы дэмакратыі". У семінары прымуць удзел аналітыкі амерыканскага інстытута, вядомыя беларускія эканамісты, вучоныя, а таксама прадстаўнікі апазіцыйных дэмакратычных рухаў і партый.

**БЕЛІНФАРМ.**

# Па шляху палітычнага рэалізму да грамадства справядлівасці і згоды

## Выступленне Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мячэслава ГРЫБА перад выбаршчыкамі Віцебска

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

На мой погляд, сур'ёзныя палітыкі павінны сёння адказаць народу на адно пытанне: ці магчыма аб'ектыўна неабходны працэс рэфармавання ўсіх сфер дзяржаўнага, сацыяльна-эканамічнага і духоўнага быцця зрабіць менш цяжкім для велізарнай колькасці працоўнага люду, што жыве ад зарплаты да зарплаты, ад пенсіі да пенсіі?

Зрабіць гэта надзвычай цяжка, але іншага шляху ў нас няма. Вобразна кажучы, мост да дабрабыту кожнага сумленнага працаўніка і законапаслухмянага грамадзяніна, як і грамадства ў цэлым, мы поўныя рашучасці будаваць не ўпоперак, а ў рэчышчы народных спадзяванняў, улічваючы беларускую спецыфіку, што звязана з вострай неабходнасцю нацыянальна-духоўнага адраджэння, захаваннем незалежнасці і суверэнітэту, не разрываючы мінулае, цяперашняе і будучае, забяспечваючы жывую сувязь часоў і пераемнасць пакаленняў.

### АРЫЕНЦІРЫ ЭКАНАМІЧНАЙ ПАЛІТЫКІ

Галоўная пляцоўка такога будаўніцтва — эканоміка.

Калі не пераламаць сітуацыю да лепшага ў гэтай рашаючай сферы чалавечай дзейнасці, усё астатняе, якім бы значным яно ні было, будзе абяскроўленым, нежыццяздольным.

Трэба прызнаць, мы яшчэ далёкія ад такой рабочай мадэлі рэфармавання нашай эканомікі. Доўгі час Вярхоўны Савет і яго Прэзідыум наогул стаялі ў баку ад непасрэднай каардынацыі эканамічнай стратэгіі, перакладваючы гэтую справу цалкам на ўрад. У нас няма цэласнага блоку ўнутрана адзіных і ўзгодненых паміж сабой законаў, рэгулюючых эканамічную дзейнасць. Падатковая палітыка не столькі стымулюе, колькі падразае творчую ініцыятыву і прадпрымальнасць вытворцаў.

Кантроль за выкананнем законаў і рэалізацыяй захадаў па выхаду рэспублікі з цяжкага эканамічнага крызісу быў хутчэй дэкларатыўным, чым рэальным. Механізм такога кантролю не быў распрацаваны раней. Адсутнічае ён пакуль што і сёння. Фактычна аказалася страчаным колькі-небудзь эфектыўнае кіраванне эканомікай. Раздзяржаўленне многіх аб'ектаў дзяржаўнай і камунальнай уласнасці ажыццяўлялася з грубым парушэннем патрабаванняў рэспубліканскіх нарматыўных актаў, што прывяло да разбазарвання народнага дабра. Прыватызацыя часцяком ператваралася ў злачынную "прыхватызацыю", выклікаючы справядлівае абурэнне сумленных працаўнікоў. Гэта больш-менш агульныя хібы нашай эканамічнай дзейнасці.

А калі гаварыць пра канкрэтныя негатыўныя з'явы? На жаль, і яны маюць месца. Мяркуйце самі. Нацыянальны даход за два месяцы бягучага года ў параўнанні з адпаведным перыядам 1993 г. знізіўся на 33 працэнты, аб'ём прамысловай вытворчасці — на 36,5 працэнта. Спад вытворчасці назіраецца амаль ва ўсіх галінах. Катастрафічна зніжаецца вытворчасць тавараў народнага спажывання і прадуктаў харчавання, на 52 працэнты знізіўся аб'ём рыначнага тавараабароту. У той жа час склады некаторых прадпрыемстваў літаральна ломяцца ад незапатрабаванай прадукцыі.

Прыводжу гэтыя афіцыйныя даныя Дзяржкамстата не для таго, каб залішне наганяць страх, а для таго, каб паказаць аб'ектыўную карціну таго, што адбываецца ў эканоміцы, у краіне. Для гэтага трэба вырашыць групу агульных і асобных пытанняў.

Цяпер прымаюцца захады, каб ухіліць гэтыя перакосы і скажэнні. Безумоўна, выцягнуць эканоміку рэспублікі з балота, у якім яна знаходзіцца ўжо не адзін год, — справа нялёгкая.

Важна правільна вызначыць стратэгічныя арыенціры, сістэму прыярытэтаў, знайсці кропкі прыкладання асноўных сіл і дакладна вызначыць асноўную, магістральную лінію развіцця. А гэта перш за ўсё абавязвае даць адказ на пытанне, якое грамадства мы будуем і да чаго імкнёмся.

Не будзем дыскуціраваць накont таго, што ў нас і капіталізм і камунізм "аднолькава не прымаюць". На падставе ўласных назіранняў і сустрэч з працоўнымі калектывамі, з самымі рознымі людзьмі, лістоў, што паступаюць у Вярхоўны Савет, магу з упэўненасцю сцвярджаць, што народ, які шмат што пабачыў, шмат выпрабаваў, тое-сёе сапраўды не прымае. Так, ён аднолькава адвяргае і рэфарматараў, якія імкнуцца сілай зацягнуць людзей у дзікі "капіталістычны рай", і ультралевых экстрэмістаў, гатовых зноў пачаць "апошні і рашучы" супраць любых формаў прыватнай уласнасці, нягледзячы нават на пазіцыю Канстытуцыі аб тым, што дзяржава "гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх форм уласнасці" (арт.13).

Мне ўжо даводзілася гаварыць, што для беларусаў, як і для рускіх, украінцаў, як, між іншым, і для іншых людзей, якія доўгі час жылі ў складзе СССР, у большасці сваёй характэрна імкненне да сацыяльнай справядлівасці, барацьба за яе, вера ў яе перамогу, з якой несумяшчальныя прынцыпы "купі — прадай" і "абагачайся, як можаш" у якасці галоўных прынцыпаў сацыяльна-палітычных паводзін і маралі.

Абсалютнае непрыняцце такой маралі бліскуча перададзена ў вершы народнага паэта Беларусі, акадэміка Максіма Танка "Падземны пераход". Вось некалькі радкоў з яго:

*"Сляпому скрыпачу*
*У пустую шапку*
*Кладу — я не падачку,*
*А доўг свой неаплатны*
*За франтавую песню*
*"Эх, дарогі"...*
*І пыл іх зноў*
*Мне вочы засціць...*
*Выходжу, здзіўлены,*
*Што яшчэ свеціць сонца".*

Не прымаюць нашы сённяшнія грамадзяне ў большасці сваёй і прынцып раздзялення людзей, іх ацэнкі па велічыні наяўнага капіталу і багацця.

Ці магчыма пагарджаць гэтым светаадчуваннем і светапоглядам пры рэфармаванні нашага грамадства? Нельга, ні ў якім выпадку. У гэтым маё глыбокае перакананне. Вось чаму мы цвёрда заяўляем, што ў поўнай адпаведнасці з артыкуламі першым і трынаццатым Канстытуцыі будзем будаваць справядлівае грамадства, якое будзе ўлічваць інтарэсы, настрой думак і чаканні ўсяго народа і грамадства, у якім розныя формы ўласнасці і гаспадарання будуць дзейнічаць у рэжыме здаровага спаборніцтва, дабіваючыся насычэння рынку таннымі і якаснымі таварамі і паслугамі, што патрэбны краіне і яе грамадзянам.

Хачу падкрэсліць, мы — за рынак, але не дзеля абагачэння кучкі карумпіраваных дзялкоў і спекулянтаў. Мы за такі рынак, які з'яўляецца не самамэтай, а сродкам павышэння эфектыўнасці эканомікі, яе накіраванасці на найбольш поўнае задавальненне патрэб і запатрабаванняў народа.

Наша самае запаветнае жаданне — стварыць грамадства, у якім будуць належным чынам узнагароджвацца і вышэй за ўсё цаніцца добрасумленная праца, талент і веды, прафесіяналізм і майстэрства чалавека. Гэта палажэнне належыць выдзеліць асабліва. Я глыбока перакананы ў тым, што менавіта растаптаны прынцып класічнага сацыялізму "ад кожнага па здольнасці, кожнаму па працы" з'яўляецца галоўнай унутранай "загадкавай прычынай" такога нечаканага для ўсіх краху першага сацыялістычнага гіганта. Ён стаяў на смяротна хворых, гліняных, як гавораць, нагах вульгарнай ураўняльнасці, а таму нечакана і імгненна абваліўся, рассыпаўся на вачах у ашаломленага свету. На жаль, атрыманая намі ў спадчыну псіхалогія ўраўняльнасці моцна працідзейнічае вылучэнню якасці і колькасці працы ў ранг асноўнага крытэрыю яе аплаты.

Нам трэба больш актыўна пераходзіць да новай сістэмы эканамічных адносін, якія выключаюць ураўнілаўку. Вядома, што тут не абысціся без глыбокіх фундаментальных даследаванняў і распрацовак вучоных — эканамістаў, палітолагаў, сацыёлагаў, юрыстаў. Пакуль жа іх творчы патэнцыял застаецца незапатрабаваным.

Такім чынам, будучае мы бачым у грамадстве са змешанай, сацыяльна арыентаванай эканомікай, пры дастаткова актыўнай ролі дзяржавы, закліканай эканамічнымі і прававымі метадамі ўтаймаваць стыхію рынку, садзейнічаць разумнай гарманізацыі разнародных запатрабаванняў у імя агульнага дабрабыту. Наша мэта — стварыць такую сістэму грамадскага ўладкавання, якая ўбірала б усё лепшае з айчыннага і сусветнага вопыту, паспяхова пераадольвала абмежаванасць і рэальнага капіталізму, і таго, што яшчэ зусім нядаўна звалася рэальным сацыялізмам.

Цяпер самае галоўнае — аднавіць кіраванне эканомікай, вырвацца з цiскоў вельмі жорсткага крызісу, прыпыніць падзенне вытворчасці, утаймаваць інфляцыю, бязмежжа цэн. Усе гэтыя задачы ўзаемазвязаны, яны патрабуюць комплекснага падыходу, максімалізацыі нашых функцый і дзеянняў па ўсіх напрамках унутранай і знешняй палітыкі.

Калі ж гаварыць канкрэтна, дык нам сёння, чаго б гэта ні каштавала, трэба пераадолець наступныя крызісныя з'явы:

спыніць абвал прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці;

адшукаць шляхі збыту велізарнай колькасці нерэалізаванай прамысловай прадукцыі;

знайсці выхады на рынкі блізкага замежжа;

ліквідаваць узаемазапазычанасць прадпрыемстваў;

пераўтварыць згубную для вытворчасці падатковую палітыку ў жыццятворную;

спыніць працэс рэзкага спаду вытворчасці прадметаў народнага спажывання, асабліва прадуктаў харчавання;

затармазіць дзейнасць друкавальных грашовых станкоў, абвальнае абясцэньванне грошай, рост інфляцыі, жахлівы бум цэн;

спыніць замахі на рэальнае сацыяльнае забеспячэнне грамадзян, замахі базарнай экспансіі на культуру і навуку беларускага народа.

Як усё гэта зрабіць? Можа яшчэ два-тры гады таму магчымы былі нейкія іншыя шляхі і сродкі. Але ў сённяшнім стане спраў, на маё глыбокае перакананне, маюцца толькі наступныя шляхі пераадолення паралізаваных вышэй негатыўных з'яў татальнага крызісу. Першае — аднаўленне адзінай вытворчай прамысловай прасторы, з Расіяй у першую чаргу. Другое — аднаўленне адзінай энергетычнай прасторы. Трэцяе — аднаўленне адзінай рыначнай, гандлёвай прасторы. Чацвёртае — аднаўленне (на падставе расійскага рубля) адзінай грашовай сістэмы. Пятае — аднаўленне адзінай эканамічнай прасторы, былых эканамічных сувязей як вынік рэалізацыі ўсяго папярэдняга.

Менавіта гэта ёсць сёння адзіныя канкрэтныя непасрэдныя шляхі і сродкі выратавання Беларусі. Астатняе: і адзінкавыя інвестыцыі заходніх фірмаў, і эпізадычная гуманітарная дапамога, і спарадычныя ін'екцыі заходніх фондаў — усё гэта не выратуе, хутчэй толькі падоўжыць агонію абсалютнага краху.

Першаасновай тут, безумоўна, з'яўляецца апора на ўласныя сілы і магчымасці і на аднаўленне былых эканамічных сувязей. Мы ніколі не павінны забываць, што для Беларусі гэта сапраўды пытанне жыцця. Існуючыя цяпер эканамічныя рэаліі — структура народнай гаспадаркі, што склалася, умовы яе рэсурсавага забеспячэння — такія, што краіна ў стане аўтаномна забяспечыць выпуск толькі 4 працэнтаў вырабляемага канчатковага прадукту. Больш за 85 працэнтаў сыравіны мы завозім з рэспублік былога Саюза. Асабліва цесна наша эканоміка прывязана да Расіі. Адтуль мы атрымліваем асноўныя энергарэсурсы і сотні відаў камплектуючых для народнай гаспадаркі рэспублікі. На 70 працэнтаў на Расію прыпадае і рынак збыту вырабляемай у нас прадукцыі.

Так склалася гістарычна. Вось чаму разрыў вякамі сфарміраваных эканамічных, гаспадарчых сувязяў, падмена адладжаных у мінулым механізмаў інтэграцыі своекарыслівымі законамі нерэгулюемага рынку прывялі да катастрафічна цяжкіх вынікаў. Растлумачу гэта на канкрэтных прыкладах. Сёння мы купляем у Расійскай Федэрацыі і газ, і нафту, і метал, і электрычную энергію па сусветных цэнах. На сваім жа ўнутраным рынку Расія прадае энерганосьбіты па больш нізкіх цэнах, чым дзяржавам СНД. Так, напрыклад, для беларускіх вытворцаў нафта каштуе ў два разы даражэй, чым для расійскіх. Затраты на энерганосьбіты аўтаматычна ўваходзяць у сабекошт тавараў, якія выпускаюць нашы прадпрыемствы, і рэзка павышаюць цану прадукцыі. Існуе і мытны падатак, які бярэцца на граніцы з Расіяй. Па асобных таварах мытныя "накруткі" павялічваюць цану яшчэ на 30 працэнтаў. Усё гэта прыводзіць да таго, што наша прадукцыя не знаходзіць збыту. Утварылася нейкае зачараванае кола.

Мы імкнёмся разарваць яго шляхам стварэння эканамічнага, крэдытна-грашовага саюза. Выгады яго відавочныя і для нас і для Расіі. Аднак і тут, і там ёсць сілы, якія супраць такога збліжэння, усяляк тармозяць ход перагавораў і заключэнне неабходных пагадненняў. Яны дзейнічаюць, вядома, не ў інтарэсах народаў, а маюць на ўвазе зусім пэўныя палітыка-ідэалагічныя мэты.

Зараз мы павінны як мага хутчэй мець поўную яснасць і дакладнасць па дагавору з Расіяй. Бо кожны новы дзень нявызначанасці невымяральна павялічвае пераказаныя вышэй негатывы і набліжае нас да поўнага краху. У гэтым становішчы, лічачыся з палітычнымі рэаліямі, відаць, не трэба кідацца ад стану эйфарыі ("Яшчэ крыху, яшчэ чуць-чуць!") да стану тугі і безнадзейнасці.

Вы, зразумела, можаце запытаць у мяне, а ці ёсць запасны варыянт, калі дагавор з Расіяй не атрымаецца? Безумоўна, ёсць. Зараз кіраўніцтва Вярхоўнага Савета прапрацоўвае ідэю: ці не паспрабаваць знешне не такі эфектны, але затое больш просты, рэальны і надзейны метад паэтапнага вырашэння праблемы? Спачатку можна было б дагаварыцца аб зняцці мытных бар'ераў і пошлін, а затым ужо рухацца далей, выконваючы, вядома, адну абавязковую ўмову: эканамічны, як і палітычны, суверэнітэт дзяржавы Рэспубліка Беларусь павінен быць недатыкальным. Гэта азначае, як мінімум, ніякага зліцця бюджэту Беларусі з бюджэтам РФ, ніякага паглынання Нацыянальнага банка рэспублікі.

Акрамя таго, нам трэба рэзка і сур'ёзна актывізаваць заходні напрамак ажыццяўлення нашых эканамічных інтарэсаў і адносін.

У свеце ўсё ўзаемазвязана. Аднак у ланцугу з'яў заўсёды ёсць вядучае звяно, і, толькі знайшоўшы яго, можна, як адзначаў класік, выцягнуць увесь ланцуг. У сучаснай агульнакрызіснай сітуацыі такім звяном, на мой погляд, з'яўляецца як мага хутчэйшае аднаўленне кіруемасці ў дзяржаве і грамадстве ў цэлым, бо сёння мы дайшлі да стану дэвальвацыі дзяржаўнай улады і дзяржаўнага кіравання з верху да нізу. Ніхто, зразумела, не заклікае адраджаць таталітарызм як абсалютнае панаванне дзяржавы ў сістэме грамадскага і асабістага жыцця. Аднак кожнаму з цвярозым чалавеку розумам павінна быць зразумела, што без цывілізаванай дзяржавы дэмакратыя мае тэндэнцыю ператварацца ў абсалютную ўседазволенасць і анархію. А гэта можа прывесці да распаду ўсіх нармальных грамадскіх сувязей. Да чаго мы ўжо і падышлі на вельмі небяспечную адлегласць. Гэта прыводзіць да многіх бед: нізкай выканаўчай дысцыпліны, карупцыі, масавых злоўжыванняў службовым становішчам, парушэнняў законнасці і правапарадку, росту злачыннасці, паслаблення канстытуцыйна-прававых і маральных устояў жыцця грамадства, у выніку — да сацыяльна-эканамічнага і духоўнага крызісу.

Такі стан рэчаў робіцца нецярпімым. Зразумеўшы неабходнасць хутчэйшага аднаўлення кіравання дзяржавай і грамадствам, Вярхоўны Савет, яго Прэзідыум, Савет Міністраў рэспублікі распрацавалі і ў бягучым годзе пачалі энергічна ажыццяўляць сістэму неадкладных мер, накіраваных на ўмацаванне беларускай дзяржаўнасці. Перш за ўсё быў нададзены неабходны імпульс паскарэнню канстытуцыйных ператварэнняў, завяршэнню недапушчальна марудлай работы па абмеркаванню і прыняццю новага Асноўнага Закона Рэспублікі Беларусь. Шляхам галасавання з дапамогай імянных бюлетэняў (што прадугледжана рэгламентам Вярхоўнага Савета) удалося прыняць раздзелы і артыкулы, якія выклікалі асабліва жорсткія спрэчкі, і тым самым забяспечыць прарыў у, здавалася б, канчаткова зайшоўшым у тупік канстытуцыйным працэсе.

Вырашана пытанне аб увядзенні пасады прэзідэнта Рэспублікі Беларусь як кіраўніка дзяржавы і выканаўчай улады. У нашых сучасных умовах інстытут прэзідэнцтва мае прынцыповае значэнне. Надзелены вялікімі паўнамоцтвамі ўсенародна выбраны прэзідэнт будзе садзейнічаць хутчэйшаму аднаўленню кіравання краінай, забеспячэнню стабільнасці, пераемнасці і павышэнню эфектыўнасці работы органаў улады і ўсіх грамадскіх інстытутаў па вертыкалі. Не сумняваюся, што гэта пойдзе на карысць усяму грамадству.

Важна і тое, што Саветы як форма народнага прадстаўніцтва з усталяванай сістэмай прывычных для насельніцтва органаў улады (у рэфармаваным выглядзе, зразумела), таксама як і Вярхоўны Савет у якасці вышэйшага органа заканадаўчай улады, захоўваюцца і будуць выконваць свае функцыі ў цесным узаемадзеянні з прэзідэнтам. На чарзе выбары прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, мясцовых Саветаў, паэтапны парадак правядзення якіх дасць магчымасць пазбавіцца ад вакууму ўлады.

Прыняцце Вярхоўным Саветам 15 сакавіка 1994 года новай Канстытуцыі, несумненна, выклікала задавальненне ўсіх, хто імкнецца бачыць родную Беларусь свабоднай, незалежнай, суверэннай, дэмакратычнай, якая займала б дастойнае месца ў супольнасці народаў.

У першым артыкуле Асноўнага Закона абвяшчаецца, што наша рэспубліка — "унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава". Кожны з гэтых вельмі важных тэрмінаў нясе вялікую сэнсавую, палітычную і юрыдычную нагрузку. Паняцце ў цэлым вызначае і падкрэслівае лінію на сцвярджэнне ў грамадстве прынцыпу сацыяльнай справядлівасці, правядзенне дзяржавай паслядоўнай сацыяльнай палітыкі, стварэнне прававых інстытутаў і сістэмы сацыяльных устаноў, якія забяспечвалі б надзейную ахову сацыяльна-эканамічных і працоўных ды іншых фундаментальных правоў грамадзян, асабліва тых, каму патрэбны штодзённыя ўвага і клопаты (жанчыны, дзеці, інваліды, састарэлыя і інш.). Мы зыходзілі пры гэтым з разумення таго, што ўлада, якая не імкнецца да ўстанаўлення сацыяльнай справядлівасці, не можа быць трывалай.

Акцэнтам на сацыяльнай прыродзе дзяржавы прадвызначаецца і адна з самых знамянальных і важных асаблівасцей новай Канстытуцыі. Гэта прыярытэт правоў чалавека над правамі грамадства, нацыі і дзяржавы, прызнаны і замацаваны ў Асноўным Законе. Упершыню ў канстытуцыйнай практыцы рэспублікі правы асобы ў адпаведнасці з міжнародным білем аб правах чалавека і заключным дакументам Сусветнай канферэнцыі па правах чалавека (14-25 чэрвеня 1993 года) выносіцца на першы план і становіцца не звычайнай часткай, а галоўнай, ядром усёй Канстытуцыі (арт.21—63). У гэтым плане мы можам гаварыць аб прыкладзе пазітыўнай пераемнасці ў адносінах да нядаўняга мінулага.

Сапраўды, сацыяльна-эканамічны і культурны аспект правоў грамадзян нават на непрыяцеляў сацыялізму рабіў уражанне. І ўсё ж жорсткі панцыр каманда-адміністрацыйнай сістэмы, асабліва ў галіне грамадзянскіх і палітычных правоў, абмяжоўваў творчыя магчымасці многіх людзей, не дазваляў ім разгарнуцца. Ступень асабістай і грамадскай свабоды была строга дазіраванай. Чалавек разглядаўся як шрубка дзяржаўнай машыны. Па-за калектывам, па-за нейкай непадтрымліваемай дзяржавай справай свабода чалавека была больш чым эфемернай. Тады бытавала прыказка "Без бумажки — ты букашка...". Сапраўды, бывалі часы, што калгаснік не мог выехаць з вёскі, калі яму старшыня не даваў даведкі, не гаворачы ўжо пра пашпарт. Грамадзянін не мог падаць у суд на свайго крыўдзіцеля, калі ім быў выканкам ці іншы орган улады.

Не магу сказаць, што з разбурэннем таталітарнай сістэмы мы зрабілі крок у царства свабоды. Але ўсё ж цяпер мы рухаемся ў гэтым накірунку. Паводле новай Канстытуцыі, рамкі грамадскай і асабістай свабоды істотна пашырыліся. У ёй улічаны многія прапановы, якія былі ўнесены па праекту Асноўнага Закона працоўнымі калектывамі, прафсаюзамі, ветэранскімі і іншымі грамадскімі арганізацыямі. Маштабна і пераканаўча выглядае комплекс артыкулаў, звязаных з наданнем грамадзянам асноўных канстытуцыйных правоў, у прыватнасці, такіх фундаментальных, як права на працу, адукацыю, атрыманне бясплатнай медыцынскай дапамогі і інш.

Мне хочацца таксама сказаць менавіта ў частцы аб фундаментальных правах грамадзяніна суверэннай Беларусі і аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Упершыню пасля стагоддзяў нацыянальнай знявагі менавіта гэтая Канстытуцыя надзяляе бясспрэчным правам кожнага беларуса, кожную структуру яго дзяржавы і дзяржаву ў цэлым думаць і тварыць на роднай беларускай мове і змагацца за адраджэнне сваёй нацыі і свайго народа. Сёння мы яшчэ, відаць, не ўсвядомілі ў поўнай меры ўсю унікальнасць, усю значнасць гэтага гістарычнага здзяйснення.

Зразумела, рашаючую ацэнку новаму Асноўнаму Закону дасць народ Беларусі, Канстытуцыі яшчэ трэба будзе раскрыць сябе на справе, у ходзе практычнага прымянення замацаваных у ёй нормаў і палажэнняў. Ёй суджана вытрымаць нялёгкі экзамен на сталасць і жыццядзейнасць.

Не выключана, што тыя сілы, якія ўсяляк процідзейнічалі прыняццю новай Канстытуцыі, цяпер, калі яна ўваходзіць у наша жыццё, будуць імкнуцца надаць ёй характар пустой дэкларацыі. Мы хочам зацвердзіць у нашым грамадстве, у паўсядзённым грамадскім ужытку гранічна паважлівыя адносіны да Канстытуцыі, да кожнай замацаванай у ёй нормы, бо Канстытуцыя — гэта галоўны фундамент дзяржаўнай улады, кіруемасці ўсіх яе структур, галоўны каардынатар адносін "дзяржава — грамадства — грамадзянін".

### ВЫРАШАЛЬНЫЯ ЎМОВЫ ПОСПЕХУ

Прыняцце Канстытуцыі дае новы імпульс кансалідацыі народа Беларусі, які атрымаў гістарычны шанс развіваць сваю дзяржаўнасць, эканоміку, навуку, культуру ў адпаведнасці з нацыянальнымі традыцыямі, атрыманым вопытам і імкненнем унесці свой самабытны ўклад у працэс сусветнай цывілізацыі.

У Канстытуцыі замацаваны, як мы спадзяёмся, прымальны для ўсіх сацыяльных сіл баланс інтарэсаў і закладзены механізм цывілізаванага вырашэння існуючых і магчымых у будучым праблем грамадскага жыцця. Фарміраванне сталага цывілізаванага грамадства магчыма на базе асноватворных каштоўнасцей, да якіх адносяцца шматукладная эканоміка і палітычны плюралізм, прыярытэт правоў чалавека, дзяржаўны суверэнітэт і народаўладдзе, дэмакратыя і вяршэнства закона.

А гэта азначае такую арганізацыю дзяржаўнага і грамадскага жыцця, пры якой улада і грамадзяне, дзяржаўныя органы і грамадскія аб'яднанні ў галоўным, што вызначае лёс нацыі, дзейнічаюць сумесна. Гэтым галоўным з'яўляецца агульнанацыянальны інтарэс. Ён заключаецца ў хутчэйшым выхадзе з крызіснага становішча, гарантыях і рэалізацыі правоў чалавека, гарантаванні ўнутранай і знешняй бяспекі краіны, яе незалежнасці і цэласнасці. Супярэчнасці і разыходжанні ў поглядах, у асобных падыходах, натуральна, могуць быць, аднак яны ў імя агульнай карысці павінны здымацца або прынамсі аслабляцца шляхам узаемных уступак і кампрамісаў.

Зразумела, пошук шляхоў да згоды трэба пачынаць "з вярхоў", са знаходжання адзіных падыходаў у дзейнасці кіраўніцтва Вярхоўнага Савета і большасці парламентарыяў. Пачатак гэтаму, і пачатак вельмі абнадзейлівы, ужо пакладзены. Яго першыя вынікі відавочныя: мы атрымалі ў рэшце рэшт Асноўны Закон, які так цяжка нараджаўся, дамовіліся аб асноўных прынцыпах уладкавання дзяржавы, аб паэтапнасці працэсу абнаўлення яе ўладных структур.

Таксама неабходна, як вучыць горкі вопыт суседзяў, пазбаўляцца ў зародку ад якога б там ні было стратэгічнага процістаяння парламента і ўрада. У нас былі падставы непакоіцца з гэтай прычыны, аднак законным дэмакратычным шляхам мы ўсё ж падышлі да разважлівасці і згоды ў гэтым плане.

У нас складваецца і ўжо дзейнічае механізм узгаднення пазіцый асноўных парламенцкіх фракцый па галоўных стратэгічных пытаннях нацыянальна-дзяржаўнага быцця. Калі б гэтага не было, ці змаглі б мы замацаваць у Канстытуцыі норму, напрыклад, аб дзяржаўным статусе беларускай мовы? Хіба магчыма было б наогул прыняць новую Канстытуцыю першай незалежнай дзяржавы — Рэспублікі Беларусь? Гэты набытак, гэты механізм згоды трэба і надалей удасканальваць з улікам назапашанага вопыту і новых палітычных рэалій.

Важнейшым элементам працэсу кансалідацыі з'яўляецца пошук шляхоў канструктыўнага супрацоўніцтва ўсіх значных палітычных партый і рухаў грамадства. Для такога супрацоўніцтва ёсць цяпер трывалая канстытуцыйная аснова. Ёсць і супадаючыя, на мой погляд, пазіцыі ў іх асноўных праграмных дакументах. Гэта — дэкларaванне прымату правоў чалавека, палітычнага плюралізму, дэмакратычнага ладу грамадства, прававой дзяржавы, сацыяльна арыентаванай змешанай эканомікі, аховы слаба абароненых слаёў насельніцтва з дапамогай пераразмеркавальнай функцыі дзяржавы.

Сапраўды, ёсць разыходжанні, і немалыя, у падыходах, у прыярытэтах, у спосабах і сродках дасягнення праграмных мэт, якія прапануюцца рознымі партыямі і рухамі. Аднак, лічу, пры дасягненні згоды ў галоўным, у тым, што складае нацыянальны інтарэс, несупадзенні ў пытаннях метадаў, тактыкі дзеянняў агульнай справе не перашкода, было б жаданне супрацоўнічаць. Натуральна, трэба падумаць над далейшай распрацоўкай адпаведнага механізма ўзгаднення інтарэсаў розных сіл, якія выступаюць ад імя народа або асобных яго слаёў. Лічу, што гэта павінна быць перш за ўсё клопатам заканадаўчых і выканаўчых органаў улады.

Заслугоўвае ўвагі ідэя стварэння пад эгідай Вярхоўнага Савета своеасаблівых грамадскіх інстытутаў з удзелам асноўных палітычных фарміраванняў, дзе маглі б калектыўна абмяркоўвацца важнейшыя праблемы дзяржаўнага ўладкавання, праекты буйнейшых заканадаўчых актаў эканамічных і палітычных ініцыятыў і да т.п.

Нам яўна не хапае ўмення дыскутаваць, "не пераходзячы на асобы", фіксуючы не столькі разыходжанні, колькі тыя моманты, па якіх магчыма згода. Адзін з палітыкаў XIX стагоддзя вызначаў дэмакратыю як вышэйшую школу кампрамісу. На жаль, гэтых школ мы не канчалі і навуцы кампрамісаў нам яшчэ трэба вучыцца.

Аднак сучасныя рэаліі, прынятыя намі канстытуцыйныя нормы палітычных паводзін абавязваюць усіх нас працаваць і кіраваць ва ўмовах палітычнага шматгалосся, улоўліваючы, сінтэзуючы і выкарыстоўваючы ў дзяржаўнай практыцы ўсё разумнае, слушнае, што нараджаецца ў гушчы народнай, у "мазгавых цэнтрах" розных палітычных партый і рухаў рэспублікі.

Скажу больш. Прыйшоў час для кансалідацыі ці, як гавораць палітолагі, узбуйнення рухаў і партый з падобнымі палітычнымі пазіцыямі. Па сутнасці, гэты працэс пачаўся ўжо, і, думаецца, у нас ёсць шанц у нейкай меры пераадолець раздробненасць палітычных сіл, якія супярэчаць інтарэсам кансалідацыі грамадства. Ужо сёння акрэсліваюцца магчымыя контуры будучай, як яе называюць аглядальнікі, "рэспубліканскай партытуры".

Я ўсведамляю, што на шляху згоды нямала небяспек. Перш за ўсё гэтаму можа перашкодзіць крайняя непрымірымасць асобных палітычных груповак і іх лідэраў. Калі сілы канфрантацыі возьмуць верх, гэта згубна адаб'ецца на думках людзей, унясе сумятню ў грамадскае жыццё, ускладніць прыняцце грамадзянамі ўзважаных рашэнняў на маючых адбыцца выбарах прэзідэнта і Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

Зразумела, што, робячы ўсё магчымае ў імя ўсталявання агульнанацыянальнай згоды, беларуская дзяржава абвяшчае самую рашучую барацьбу злачыннасці і законанепаслухмянасці, ад каго б яны ні зыходзілі.

Клапоцячыся пра ўнутраную згоду і мір на зямлі нашай Бацькаўшчыны, Вярхоўны Савет, урад рэспублікі маюць намер і ў далейшым прымаць усе неабходныя меры для ўсталявання згоды і міру з нашымі блізкімі суседзямі і далёкімі партнёрамі па міжнароднаму супольніцтву нацый.

Ад гэтага ў немалой ступені залежыць рэалізацыя асноўных састаўных нацыянальнага інтарэсу Беларусі: выхаду з крызісу, яе бяспекі і нацыянальна-духоўнага адраджэння.

Мы поўныя рашучасці захаваць добрыя братэрскія сувязі з усімі нашымі суседзямі; выканаць свае міжнародныя абавязацельствы, і асабліва аб статусе бяз'ядзернасці нашай краіны і нераспаўсюджанні ядзернай зброі, у якасці бяз'ядзернай дзяржавы прымаць удзел у будаўніцтве агульнаеўрапейскага дома шляхам актыўнага ўваходжання ў арганізацыі Еўрапейскага супольніцтва нацый; уважліва аднесціся да праграмы "Партнёрства ў імя міру" і выканаць свой доўг у сістэме калектыўнай бяспекі краін СНД; з годнасцю прадстаўляць нашу рэспубліку ў міжнародных арганізацыях, і ў першую чаргу ў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Рэалізуючы шматвектарную палітыку разумнага прагматычнага рэалізму, мы настойліва будзем імкнуцца да рэалізацыі прынцыпаў consensus omniom, г.зн. прынцыпаў універсальнай згоды.

